 

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1702) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 25 СНЕЖНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.

## Чыніць дабро, не чакаючы заплаты

### РАЗМОВА З КСЯНДЗОМ УЛАДЗІСЛАВАМ ЧАРНЯЎСКІМ З ВІШНЕВА — БССР

**— Вы належыце да ліку тых рэдкіх ксяндзоў, якія, вызнаючы каталіцызм, лічаць сябе і сваіх прыхаджан-каталікаў беларусамі. Скажыце, калі ласка, аб галоўных этапах свайго жыцця і найважнейшых фактах.**

— Я нарадзіўся 14 студзеня 1916 года ў вёсцы Амбружына каля Гальшан Ашмянскага ўезда. Выводжуся з мнагалюднай сям'і, у якой было дванаццаць дзяцей. Можаце сабе лёгка ўявіць, як жылося ў тыя часы сем'ям, у якіх было столькі дзяцей. Мая вёска, як уся Віленшчына, аказалася пасля розных перыпетый у межах санацыйнай Польшчы. Меў я вялікую ахвоту да навукі. I хоць не хапала падручнікаў — вучыўся добра. Гэта пацвярджалі настаўнікі, інспектары, гэта знаходзіла пацвярджэнне і ў школьных атэстатах. Закончыў я чатыры класы. Доктар з Крэва намаўляў бацьку, каб пускаў мяне ў навуку. Ужо нават бацькі пасадзілі мяне, босага, на воз, каб ехаць у Крэва. Потым перадумалі, і я на навуку ў Крэва не паехаў. Пасля, аднак, разам з іншымі хлопцамі паступіў у настаўніцкую школу ў Крэве. Раз у тыдзень прыходзіў у вёску, каб узяць у торбу харчоў і зноў ісці ў мястэчка. Аднак у 1933 годзе нашу школу закрылі, і я зноў апынуўся на раздарожжы. Напісаў свайму сваяку Францішку Чарняўскаму, духоўнаму, які жыў у Францыі, і ён мне параіў ісці ў манастыр. Я паслухаў і паехаў у Друю. Там паступіў у гімназію, у якой правучыўся чатыры гады. Закончыў яе ў 1937 годзе. Ваявода Бацянскі загадаў ліквідаваць Друйскую беларускую гімназію. Сказаў: „Żeby nie było po niej śladu“. Ксяндзы, якія праяўлялі беларускую свядомасць, былі вывезены з Друі паліцыяй. Забаронена ім было вяртацца ў мястэчка. Большасць з іх пераехала ў Варшаву, дзе пачалі дзейнічаць як арыяне. Паехаў у Варшаву і я; адтуль быў накіраваны ў мясцовасць Скужэц каля Седльцаў.

У гэтым самым часе ваявода Бацянскі выгнаў з семінарыі ў Вільні яшчэ дванаццаць клерыкаў, якія прызнаваліся да беларускасці.

Вось так мы ўсе сышліся і бадзяліся, а ў 1938 годзе знаходзіліся ў Расне недалёка ад Чаромхі і там нас застала вайна. У гэтым часе я падаўся ў Літву. Год пабадзяўся і ўступіў у духоўную семінарыю ў Коўне, дзе правучыўся два гады. Пасля пераехаў у Вільню, якая была ўжо занятая немцамі, і там закончыў сваю духоўную адукацыю. Быў высвенчаны на ксяндза ў 1945 годзе. Пасля вайны ў Вільню прыязджалі беларусы-каталікі, каб дастаць для сваіх парафій ксяндзоў. Прыязджалі і з Каменкі, і з Берастаўіцы, і з многіх іншых мясцовасцей, недалёка ад польскай мяжы. Аднак, найбольш упартасці і паслядоўнасці выказалі прадстаўнікі Вішнева Валожынскага раёна. Вось я і паехаў у Вішнева, дзе жыву да сёння.



**— Колькі тут маеце прыхаджан?**

— Цяжка сказаць. Справа ў тым, што раней прыязджалі да мяне людзі з мясцовасцей, адлеглых на 70—80 кіламетраў, бо нідзе не было ксяндзоў. Сёння сітуацыя палепшылася. Ксяндзоў стала больш. Думаю, што маю прыблізна 7000 прыхаджан.

**— Здзівіў мяне дасканалы знешні выгляд Вашага касцёла. Як Вы гэта дасягнулі?**

— Ужо некалькі разоў аднаўлялі. У сэнсе грошай няма большых цяжкасцей. Людзі ў нас ахвярнічаюць. Галоўныя цяжкасці звязаны з матэрыяламі, фарбамі, салíднымі спецыялістамі.

**— Ад якога часу Вы пачалі весці службу па-беларуску?**

— Ад самага пачатку. Праўда, на пачатку было цяжкавата. Адчувалася варожасць з боку некаторых суседніх ксяндзоў, якія падбухторвалі і мясцовых людзей. Называлі мяне камуністам. Аднак памаленьку людзі пераконваліся, што беларускае слова таксама мілае Богу, як і кожнае іншае. А што датычыцца тых, хто пад'юджваў супраць мяне людзей, дык сярод такіх апынулася і польскамоўная парыжская „Культура“, якая аблаяла мяне некалькі разоў.

**— Ці былі Вы ў Рыме?**

— Быў і быў прыняты папам ў Ватыкане ў 1968 годзе.

**— Ці ставілі Вы там справу беларускай мовы як мовы багаслужбы?**

— Так, пачаткова кіраваў лісты, між іншым, і да кардынала Казаролі. I Казаролі, і папа аднесліся са зразуменнем да маіх намаганняў у галіне мовы. Гэта яны даручылі мне пераклад Свяшчэннага пісання на беларускую мову. А што датычыцца беларускай мовы ў касцёле, дык з'яўляецца яна чымсьці поўнасцю натуральным. Трэба ведаць, што ўсе мае прыхаджане ў штодзённым жыцці гавораць па-беларуску. А ксяндзы прымушалі іх да польскай мовы. Ужывалі пры гэтым такія аргументы, як: „Nie będziesz mówił po polsku, to nie ochrzczę twego dziecka”; „Nie będziesz mówił po polsku, to nie pochowam twego ojca i matki”.

**— Скажыце больш дэталёва аб сваіх перакладах Біблії на беларускую мову.**

(Працяг на стар. 6)

## ГАЛАСЫ З'ЕЗДА

**Тамара Русачык з Бельска-Падляшскага, методык навучання беларускай мовы,** закранула праблему беларускай асветы на Беласточчыне. Звярнула ўвагу дэлегатаў на тое, што далей яшчэ адчуваецца недахоп падручнікаў беларускай мовы, асабліва ў старэйшых класах. Няма дастатковай колькасці настаўнікаў-спецыялістаў па навучанні беларускай мовы. Студэнты беларускай філалогіі нагул вяртаюцца на Беласточчыну, але не ўсе могуць знайсці тут працу па сваёй спецыяльнасці. Дэлегатка звярнула таксама ўвагу на тое, што да гэтай пары так і не створана добрая праграма навучання беларускай мовы. Т. Русачык скіравала ў адрас улад БГКТ шэраг прапаноў, прынятых на з'ездзе настаўнікаў беларускай мовы. Сярод іх аказалася прапанова стварэння завочнага настаўніцкага аддзялення беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце і прапанова перавыдаць польска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы.

**Валянціна Ласкевіч з Беластока** сказала, што ў дзейнасці БГКТ у мінулай кадэнцыі, нават у параўнанні з не надта цікавым перыядам 70-тых гадоў, наглядаецца вялікі занапад. Пастаянна не хапае фінансавых сродкаў для развіцця аматарскага руху. Ужо шмат гадоў няма інструктара на Беластоцкі гарадскі аддзел БГКТ. Невядома чаму ў памяшканні ГП БГКТ няма беларускіх нацыянальных сімвалаў. Кепска забяспечана матэрыяльная база клуба БГКТ: няма нават магнітафона.

В. Ласкевіч запрапанавала на кадэнцыю 1988—92 г.г. заняцца наступнымі справамі:

(Працяг на стар. 4)




 

# ГАЛАСЫ З'ЕЗДА

(Працяг са стар. 1)

— пераўтварыць конкурс беларускай песні ў фестываль беларускай песні пад патранатам Міністэрстваў культуры ПНР і БССР;

— стварыць беларускі аматарскі тэатр;

— арганізаваць у Беластоку агляд творчасці мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей;

— памяшканням, якімі распараджаецца БГКТ, надаць адметны беларускі выгляд.

**Аляксандр Максімюк, студэнт Варшаўскага універсітэта,** паінфармаваў дэлегатаў, што Варшаўскі аддзел БГКТ выступіў з прапановай, каб прадстаўнікі БГКТ прынялі ўдзел у размовах пры „круглым стале“. Прапанова была перdesignated казана Прэзідыуму ГП БГКТ. А. Максімюк запытаўся, што ў гэтай справе было зроблена.

Адказваючы, Аляксандр Баршчэўскі паінфармаваў, што Міністру ўнутраных спраў было паслана пісьмо з прапановай прыняцця ўдзелу ў размовах „круглага стала“ і што для гэтага былі назначаны дзве асобы: Канстанцін Майсеня і Хведар Галёнка.

**Антон Міpановіч з Беластока** сцвердзіў, што шматгадовая практыка паказвае малое зацікаўленне мясцовых улад беларускімі праблемамі. Запрапанаваў апрацаваць афіцыйны дакумент адносна праблем і патрэб беларускай нацыянальнай меншасці і накіраваць яго ў Сейм ПНР.

***На тым заканчваем пераказ выступленняў дэлегатаў і гасцей XI З'езда БГКТ. Аднак, праблематыкі З'езда не пакідаем. У бліжэйшым часе апублікуем Пастанову XI З'езда БГКТ і адказ Міністэрства ўнутраных спраў адносна „круглага стала“.***




**НАМ СПЯВАЛІ „СТО ЛЯТ“**

**Сустрэўшы мяне, Ніна Мушынская, прымадонна беларускага хору ў Гарадку, загаварыла аб сваім калектыве. Апошняя вандроўка Гарадка была аж у Торунь, аб чым пісала ў „Ніве“ Я. Чэрнякевіч.**

**— Не ўспомнена было ў „Ніве“, — сказала Ніна Мушынская, — што нам там слухачы спявалі „Сто лят“. Як толькі закончылі мы сваё выступленне, пачаліся бурныя апладысменты. І раптам зала ўстала і дружна адспявала нашым народным артыстам „Сто лят“. Наш Гарадок, узрушаны да глыбіні душы, не астаўся ў даўгу. Мы таксама падцягнуліся і грымнулі магутнае „Многая лета“. Адны падхапілі гэты наш развітальны гімн і спявалі разам з намі, другія выціралі слёзы... То быў для нас моцны, хвалюючы момант.**

**Вывад з гэтага для Ніны Мушынскай быў аптымістычны: свае людзі ў Торуні. блізкія людзі, сардэчныя і добрыя людзі.**

**Гарадоцкі калектыў з удзячнасцю ўспамінае сваю гасціну ў Торуньскім музеі. (вв)**





Старая хата ў Вяжхуцы.

Мал. У. Петрука

(Працяг са стар. 2)

**Грамадзяне!**

Стварайце групы падтрымкі Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“!

Арганізацыйны камітэт Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне“.

**Рэкамендацыі**

па стварэньні групаў падтрымкі Беларускага Народнага Фронту за перабудову „Адраджэньне“

Беларускі Народны Фронт за перабудову „Адраджэньне“ будзе складацца з апорных групаў людзей, якія справай падтрымліваюць палітыку перабудовы, распачатую лепшымі сіламі КПСС.

Групы падтрымкі БНФ „Адраджэньне“ ствараюцца для вырашэння мясцовых і агульна-нацыянальных праблем. Найпершая задача групаў падтрымкі — змаганьне за дэмакратызацыю ў сваіх калектывах, у гарадах і вёсках, за рэальны ўдзел грамадскасьці ў прыняцьці жыцьцёва важных рашэньняў, за экалагічна чыстае асяродзьдзе, за пашану да кожнай нацыянальнай культуры і мовы, за рэалізацыю прынцыпаў дэмакратычнага жыцьця грамадства.

Групы падтрымкі ўдзельнічаюць ва ўсіх справах БНФ „Адраджэньне“, у абмеркаваньнях законапраектаў, у рэферэндумах, у выбарчых кампаніях, пасьлядоўна адстойваюць лінію на перабудову.

Групы падтрымкі ствараюцца на прадпрыемствах, па месцы жыхарства, у таварыствах, самадзейных аб'яднаньнях і г.д.

Групы падтрымкі ствараюцца грамадзянамі незалежна ад іх нацыянальнасьці, партыйнасьці і веравызнаньня. Вызваленыя партыйныя, камсамольскія і прафсаюзныя кіраўнікі могуць быць толькі радавымі членамі групаў падтрымкі.

Група падтрымкі паведамляе пра сваё стварэньне з указаньнем арганізацыі ці месца, дзе яна створана, яе адраса, тэлефона, а таксама колькасьці сяброў (членаў).

Група падтрымкі БНФ „Адраджэньне“ лічыцца ўтворанай пры наяўнасьці ў ёй трох асоб.

Просім паведаміць, якім чынам Ваша група магла б удзельнічаць у распрацоўцы праграмы БНФ „Адраджэньне“, які б уклад магла ўнесьці ў ажыцьцяўленьне мэтаў Народнага Фронту. Аргкамітэт БНФ „Адраджэньне“ будзе аказваць метадычную дапамогу групам падтрымкі.

Рэгістрацыю групаў БНФ „Адраджэньне“ праводзіцца ў Саюзе пісьменьнікаў БССР, Менск. вул. Фрунзе 5.

— ✱ —

**БЕЛАРУСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА**

*Пісьменнік Алесь Адамовіч, гаворачы пра палітычныя абставіны ў Беларусі, успомніў Вандэю — вобласць у Францыі,*




*якая актыўна супраціўлялася рэвалюцыі 1789 года („Огонёк“ № 39). Беларускі друк адгукнуўся на мастацкі вобраз артыкулам (перадрукаваным амаль усімі рэспубліканскімі газетамі), дзе Адамовіч прадстаўляецца чалавекам некампетэнтным ды які слаба разбіраецца ў сітуацыі. Праз некалькі дзён устаноўчы сход таварыства памяці ахвяраў сталінізму „Мартыралог“ рашыў стварыць ініцыятыўную групу Народнага Фронту Беларусі. Гэты крок творчай інтэлігенцыі стаў прычынай для новых публікацый і публічных дыскусій. Ідэалагічныя „штыкі“, якія сустрэлі ініцыятыву „Мартыралога“, — трывожны сімптом актыўнага тармажэння перабудовы ў рэспубліцы, лічыць беларускі пісьменнік, член праўлення „Мартыралога“ і ініцыятыўнай групы Народнага Фронту ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Публікуючы размову з ім, рэдакцыя гатова даць слова прыхільнікам супрацьлеглага пункта гледжання.*

**„Московские новости“:** Васіль Уладзіміравіч, да гэтага часу краіна (г.зн. СССР — „Ніва“) мала што ведала пра самадзейныя рухі ў Беларусі. З апошніх публікацый у „Вячэрнім Мінску“ стала вядома, што тамашняя грамадскасць выступае супраць „антынароднага народнага фронту“. Яго ініцыятараў называюць экстрэмістамі, беларускую моладзь з таварыства „Талака“ — нацыяналістамі. Многія параўноўваюць тон артыкула пра „Талаку“ з прыкладамі перадваеннай разгромнай публіцыстыкі. Але ж у артыкуле ёсць і факты!

**Васіль Быкаў:** Фактаў, калі вы заўважылі, ёсць мала ды і тыя, на мой погляд, няпэўныя. У асноўным — аргументы. Імкненне „талакоўцаў“ адрадзіць нацыянальную сімволіку — герб і сцяг — называецца нацыяналістычным толькі на той падставе, што дзесьці за мяжой з гэтымі сімваламі збіраюцца беларускія эмігранты. Такія ж ярлыкі прыклейваюць на любую спробу адраджэння дзесяцігоддзямі выміраючай беларускай культуры. Гэтыя тэндэнцыі не навіна для рэспублікі. Але калі ў чацвертым годзе перабудовы газеты пачынаюць адкрытую барацьбу з нацыянальнай самасвядомасцю... Сумна... Нават калі ў праграме „Талакі“ не абышлося без перагібаў, вопыт нашых суседзяў-прыбалтаў (г.зн. літоўцаў, латышоў і эстонцаў — „Ніва“) гаворыць, што самыя складаныя праблемы можна вырашаць спакойна і развацжліва, без клеймавання і ганьбавання. Дарэчы, тон артыкула не адзіная прыкмета мінулых часоў. Адзін з тых, хто падпісаў яго — доктар гістарычных навук А. Філімонаў — вядомы тым, што абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму: „Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя — верны друг вялікага Сталіна“...

**„МН“:** Але з гэтымі аўтарамі салідарны многія. Большасць з іх бачыць галоўную небяспеку ў народным фронце, якога, дарэчы, яшчэ няма...

**В. Быкаў:** Ведаеце, як арганізоўвалася дыскусія з нефармальным клубам „Сучаснік“ на-

# Чыніць дабро, не чакаючы заплаты

(Працяг са стар. 1)

— Даручыў мне гэта папа Павел VI. І вось, пачынаючы ад 1968 года, працую над перакладам. Пераклаў літургію на круглы год, уключна з усімі святамі і ўрачыстасцямі, а таксама Імшал. Многае я ўжо пераслаў праз Маскву ў Рым. Цяпер перакладаю Біблію і ўжо пераклаў болей палавіны. Спяшаюся, баюся, каб смерць не перашкодзіла мне давесці справу да канца. Спадзяюся, што пераклад выйдзе ў Лондане ў Бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Справай друку займаўся біскуп Ч. Сіповіч, а цяпер пераняў справу айцец А. Надсон.

**— Вы сказалі, што чытаеце „Ніву". Скажыце, калі ласка, калі Вы сутыкнуліся з „Ніваю" і якое яна робіць на Вас уражанне?**

— Чытаю яе даўно, а кранае мяне ў „Ніве" перш за ўсё тое, што вельмі натуральна і, думаю, праўдзіва піша яна аб вёсцы. І гэта мне падабаецца. Падабаецца і тое, што часта адкрыта і прыхільна піша аб рэлігійных праблемах, аб тым, што беларуская моўная стыхія павінна ўжывацца ў святыні. Гэта ж святая праўда. Падабаецца мне і мова „Нівы". Яна жывая і натуральная, нярэдка насычана дыялектызмамі. Усё гэта складваецца на каштоўнасць „Нівы".

**— Скажыце, лёгка ці цяжка быць ксяндзом-беларусам?**

— Так, як гароху пры дарозе. Многа нядобразычлівых.

**— Ці, нягледзячы на цяжкасці, намерваецеся далей ісці па беларускаму шляху ў касцёльнай службе?**

— Маю толькі адну мэту. Хачу, каб беларускі народ, незалежна ад веравызнання, гаварыў з Богам на роднай мове. Не можа быць такога, каб Богу гэта было не мілае.

**— Разглядаюся па Вашай кватэры і здзіўляе мяне сціпласць Вашага дому. Мабыць, нямнога ёсць духоўных, якія жывуць так бедна. Чым Вы кіраваліся, выбіраючы гэтую форму жыцця?**

— Убоства спадарожнічае майму жыццю. Бедна я жыў у сваёй сям'і, у якой было дванаццаць дзяцей. Бедна жыў у манастыры, бедна — у семінарыі. І гэта ў мяне асталося ў крыві. Найлягчэй паміраць чалавеку, які не мае багаццяў. Таму са спакоем гляджу на перспектыву смерці. Ведаю, што ёсць ксяндзы, якія жывуць багата, маюць машыны, шыкарныя кватэры. Не зайздрошчу ім. Я думаю, што духоўны павінен жыць не багацей, чым яго прыхаджане.

**— Я чуў, што Вы маеце багатую беларускую бібліятэку. Як вы яе збіралі?**

— Калі я быў у Друі, дык бачыў, як прадстаўнікі ўлад, разагнаўшы беларускіх духоўных,

# Наш доўг

(Працяг са стар. 3)

з пастаяннымі грамадзянамі БССР — 196 чалавек.

Чаго сапраўды хацеў Сталін? НЭП даўно ўжо быў ліквідаваны. Сталін імкнуўся стварыць максімальна сцэнтралізаваную дзяржаву, закончыць гульню з „нацыянальным пытаннем" або са справай г.зв. „законнасці". Дзеля таго трэба было знішчыць цвет беларускай інтэлігенцыі і запалохаць усіх іншых. Да гэтага дасканала падыходзілі „прибывшие" з Заходняй Беларусі. Іх усіх без выключэння назвалі агентамі Польшчы. А ў 1934 годзе ад імя КПЗБ былі выдадзены брашуры, артыкулы, лістоўкі, у якіх кіраўнікоў „Грамады" і „Змагання", а таксама Таварыства беларускай школы абвясцілі агентамі польскай дэфензівы.

І хаця іх усіх, упаасобку, пасля XX З'езда КПСС нібыта пасмяротна рэабілітавалі, то ні „Грамада", ні „Змаганне" як арганізацыі не былі рэабілітаваны. Навошта ж успамінаць? З гэтага ў пэўнай ступені бярэцца маўчанне вакол іх. Пакіньма, аднак, гэтае пытанне нашым гісторыкам.

У сувязі з узнікненнем у Мінску „Мартыралога Беларусі" хачу закрануць адно дэталёвае пытанне, вельмі істотнае, патрэбнае дзеля таго, каб было лягчэй устанавіць месца гібелі кіраўнікоў „Грамады". Ці прабывалі яны ў 1937—38 гадах у мінскіх турмах? Што ў гэтай справе вядома.

Арыштаваны ў маі 1937 г. Браніслаў Тарашкевіч быў пераведзены ў Мінск, дзе нейкі час знаходзіўся ў камеры па-суседску з беларускім паэтам Станіславам Шушкевічам, які, на шчасце, па сённяшні дзень жыве ў Мінску. У Мінску Б. Тарашкевіча катавалі, судзілі і пакаралі смерцю. Ваенны трыбунал прыгаварыў яго як агента II-га аддзела польскага Генштаба. Расстралялі Б. Тарашкевіча 29 лістапада 1938 г.

А іншыя? Частка арыштаваных была адпраўлена на Салавецкія астравы. Некаторыя былі ў Комі АССР, іншыя — на Калыме. Ці там загінулі?

З уласнага вопыту і вопыту вядомых мне дзеячоў ведаю, што ў 1937 і 1938 г. з Комі АССР і з Калымы многіх перавезлі назад у Мінск. Фармальна называлася гэта „доследование". Фактычна прывозілі ўжо раз абвінавачаных дзеля таго, каб большасць іх знішчыць тут на месцы або павысіць прыгавор да такой ступені, каб арыштаваны ўжо ў Беларусь не вярнуўся. Адсюль маё меркаванне, што загінулі яны ў Мінску. Але калі „есть где узнать", спадзяемся, што неўзабаве даведаемся, дзе і калі яны загінулі. І можам спадзявацца **помніка ім.**

Пішу ў „Ніву" яшчэ з адной прычыны. Хачу падкрэсліць адзін факт. Не зважаючы на тое, што „Грамада" фармальна не была рэабілітавана, то адзіным, як дагэтуль, месцам, дзе памятаюць аб ёй і святкуюць юбілеі — гэта Беласток у Польшчы. Ні Вільня, ні Мінск гэткіх юбілеяў не спраўлялі. Даведалася я аб гэтым яшчэ ў 1965 г., калі 40-годдзе „Грамады" ўпершыню адзначалася ў Беластоку. Упершыню, хаця не ўсім гэта падабалася! Не маглі забыць, што калісьці называлі кіраўнікоў „Грамады" агентамі дэфензівы. А тут была наладжана вялікая выстаўка аб „Грамадзе", аб такой **„Грамадзе", якой была яна ў рэчаіснасці.** На ўрачыстасці

У 200 гадавіну




Ігнат Даніловіч сярод пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэння XIX—пачатку XX ст. — гэта адна з самых яркіх індывідуальнасцей. Яго эрудыцыя, шырокі кругагляд і аўтарытэт унеслі ў беларускую культуру вялікія каштоўнасці. Нарадзіўся Ігнат Даніловіч у сяле Грыневічы-Вялікія каля Бельска 30 VII 1788 г. У гэтым ціхім, падляшскім сяле прайшлі дзіцячыя гады Ігнася.

Яго бацька, настаяцель уніяцкай парафіі, дбаў пра адукацыю сына. Ужо ў 1797 г. ён аддае Ігнася на вучобу ў Ломжынскую школу піяраў. І. Даніловіч удала яе канчае і затым паступае ў Беластоцкую гімназію, якую заканчвае ў 1807 г. Малады І. Даніловіч многа займаецца самаадукацыяй і ў 1810 годзе ён ужо студэнт юрыдычнага факультэта Віленскага універсітэта, а ў 1812 г. атрымлівае ступень магістра праў. Далейшую вучобу і навуковую працу перапыняе напалеонаўская вайна.

У 1812 г. у І. Даніловіча, пад уплывам яго сябры Алдакоўскага і праф. Віленскага універсітэта Капелы праяўляецца зацікаўленне цывільным літоўскім (беларускім) правам. І. Даніловіч у 1814 г. становіцца выкладчыкам цывільнага права ў Віленскім універсітэце. Займаецца даследаваннем дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Літвы і Беларусі. Пераломны ў яго навуковай працы і фарміраванні светапогляду — гэта 1819 год, калі ён уваходзіць у цесны кантакт з гісторыкамі М. Баброўскім і Я. Ярашэвічам (яны таксама паходзілі з Беласточчыны: М. Баброўскі з Волькі-Выганоўскай каля Орлі, а Я. Ярашэвіч з Бельска). У выніку мэтанакіраванага вывучэння помнікаў гісторыі і права Літвы і Беларусі ў віленскім асяроддзі, звязаным з тымі асобамі, даспявае „рутэнская" ідэя — зародак ідэі Маладой Беларусі.

У 1823 годзе І. Даніловіч ужо звычайны прафесар праў Віленскага універсітэта. Адначасова ён — член Камісіі для падрыхтоўкі выдання Літоўскага Статута 1588 года — гэтай літоўска-беларускай канстытуцыі, якая яшчэ ў пачатках XIX ст. абавязвала на ранейшых землях Вялікага княства Літоўскага. Аднак праца над выданнем Статута была неўзабаве спынена.

Пасля выкрыцця царскімі ўладамі ў Віленскім універсітэце патаемных гурткоў (філарэтаў і філаматаў), у 1824 г. некаторыя прафесары універсітэта былі пазбаўлены працы. Ненадзейным палічылі таксама І. Даніловіча. У яго адабралі прафесарскую кафедру і загадалі выехаць з Радзімы без права вяртання.

І. Даніловіч цяжка перажыў разлуку з Радзімаю. Свядомы, аднак, свайго пасланніцтва, зноў пачынае навуковую працу. У 1825—29 гадах ён — прафесар права Харкаўскага універсітэта. Як выкладчык і педагог карыстаецца там вялікім аўтарытэтам сярод студэнтаў. У 1830 г. ён быў запрошаны графам Сперанскім у Пецярбург для працы над Зводам правінцыянальных законаў заходніх губерняў Расіі. Але выданне друкам гэтага Зводу законаў не ўдалося ажыццявіць. У 1840 г. па загаду цара Літоўскі Статут 1588 г. для земляў Літвы і Беларусі спыніў сваю заканадаўчую моц.

У 1835 годзе І. Даніловіч стаў першым дэканам юрыдычнага факультэта Універсітэта св. Уладзіміра ў Кіеве. Там ён працягваў свае даследаванні ў галіне старабеларускага і літоўскага права. Праводзіў таксама археалагічныя раскопкі. Толькі чатыры гады І. Даніловіч працаваў і выкладаў у Кіеве. У 1839 годзе царскія ўлады закрылі Універсітэт св. Уладзіміра, а праф. Даніловіч вымушаны быў пераехаць у Маскву. Тры гады выкладае ён права ў Маскоўскім універсітэце і там заканчвае сваю навуковую дзейнасць.

Разлука з Радзімай, вечныя пераезды і нервовае напружанне адмоўна адбіваюцца на здароўі І. Даніловіча. У 1842 г. пераходзіць ён на пенсію і пера-

палілі беларускія кніжкі. Гэта было жудаснае відовішча. Бачу яго да сёння. Кніжкі люблю і іх збіраю. Многія, аднак, раздаў людзям, калі толькі меў упэўненасць, што гэтыя людзі будуць кнігі шанаваць. Вам таксама крыху дам.

**— Чым цікавіцеся апрача святарства?**

— Не раз чалавеку бывае цяжка на душы. Мучыць бяссонніца. У такіх сітуацыях іду ў лес, слухаю адважнай песні зямлі, захапляюся хараством свету — і тады душа мая супакойваецца. Вяртаецца да мяне сон. Прырода для мяне — гэта добры лекар, прыяцель. Дае мне ўсё, не жадаючы нічога. Яна рэлігійная. Так і чалавек павінен чыніць дабро, не чакаючы заплаты.

Гутарыў **Аляксандр Баршчэўскі**

прысутнічалі былыя члены „Грамады". Былі запрошаны госці з Варшавы, з БССР. Былі сваякі Браніслава Тарашкевіча, кіраўнікі Незалежнай сялянскай партыі — А. Федаровіч і зусім сівенькі Ф. Галавач. Быў абед для актыву і гасцей. Адным словам, сапраўдны юбілей, як кажуць рускія, „на зло врагам и перекор стихии".

Калі яшчэ ў нашай свядомасці жыве памяць аб „Грамадзе" і яе кіраўніках, дык наш доўг, наша права — дамагацца помніка кіраўнікам „Грамады".

І яшчэ адна дробязь. Старэнькі Галавач, які на юбілеі 40-годдзя сядзеў у прэзідыуме, прапанаваў некаторым устаць і кінуць лозунг: „Cześć ich pamięci". Ён вельмі здзіўляўся, калі яго ўгаварылі, каб гэтага не рабіць. Але сёння магу смела закончыць свае ўспаміны аб „грамадоўцах" словамі: „Вечная ім памяць!"

**Аляксандра Бергман**

## ВЯСКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА



Бібліятэка ў Рыбалах была адкрыта ў 1953 годзе, калі былі яшчэ паветы і павятовай бібліятэкай у Бельску кіраваў Арцём Чыквін, вялікі папулярызатар чытальніцтва беларускіх кніжак у сетцы публічных бібліятэк. Ён пільна дбаў, каб у бібліятэкі паступалі беларускія кніжкі, арганізаваў пастаянныя нагляды і катролі за беларускім чытальніцтвам. У тыя 50—60-ыя гады праводзіліся конкурсы па чытальніцтву беларускіх кніжак, семінары і сустрэчы бібліятэкараў — усё для таго, каб папулярызаваць беларускую кніжку. І як сведчыць Ніна Тамашук, бібліятэкарка з Рыбалаў, чытальніцтва беларускіх кніжак было куды лепшае, чым цяпер. Цяпер ніадкуль не вядзецца ніякая праца для пашырэння беларускага чытальніцтва кніжак, ужо некалькі гадоў новыя беларускія кніжкі не паступаюць у бібліятэку. Аб беларускім чытальніцтве ніхто не думае.



*Ніна Тамашук 18 гадоў працуе бібліятэкарам у Рыбалах.*

Ніна Тамашук свой беларускі кнігазбор выставіла асобна ў вельмі відавочным месцы з вялікім надпісам, што гэта беларускія кніжкі. Кожны можа дайсці да паліц, пагартаць, пабачыць кніжку. А ўсё-такі беларускія кніжкі чытаюцца рэдка. Больш чытаюць вучні. Усё роўна, аднак, на дзесятак кніжак, якія я ўзяла ў рукі, толькі на карце адной быў год апошняга пазычання яе — 1988, усе іншыя ляжаць непазычаныя ад 1979—80 г.г. Ці то крызіс 1980 года прынёс застой у чытанні беларускай літаратуры? Здаецца, што выяўляецца тут і той факт, што ў выніку крызісу ў краіне ў 1980 годзе ўзмацніўся націск паланізатарскага элементу, на які беларусы зарэагавалі, між іншым, адступленнем ад чытання беларускіх кніжак. Прычынай можа быць і агульнае ляніўства да чытання. Чытаць наогул любіць чалавек актыўны, чалавек самастойнай творчай думкі. Іншаму ж хопіць тэлевізар і пасіўнае ўспрыманне культуры.

Мне хочацца звярнуць увагу на з'яву, чаму ў бібліятэцы ў Рыбалах з яе звыш 1000 беларускімі тамамі няма ахвотных чытачоў? І чаму іх зменшылася пасля 1980 года? Чаму нават школьнікі радзей пазычаюць беларускія кніжкі? Ніна расказвае, што старыя людзі ў Рыбалах і аколіцы больш ахвотна чытаюць па-руску, чым па-беларуску. І добра, што чытаюць хоць па-руску. Трэба рускія кніжкі таксама купляць у нашы бібліятэкі, дзе жывуць беларусы. Тым больш, што публічныя бібліятэкі горада Беластока не маюць фонда кніг на рускай мове, чаго я ніколі не магла зразумець.

Вернемся ў Рыбалы. Ніна кажа: „Можа я замала рэкламую беларускае чытальніцтва? Але ніхто зноў гэтага ад мяне не вымагае. Не патрабуюць ад мяне ніякіх справаздач, так як гэта было калісьці".

Асабіста помню, як з дырэкцыяй Ваяводскай бібліятэкі ў Беластоку „Ніва" арганізоўвала конкурсы беларускага чытальніцтва, як супольна планавалі новыя закупкі беларускіх выданняў, як дзялілі беларускія кніжкі па бібліятэках. Цяпер Ваяводская бібліятэка нічога такога не робіць. Чаму?

У бібліятэку ў Рыбалах у час нашай размовы ўвайшла дзяўчынка. Прынесла дзве кніжкі для абмену. Гэтыя кніжкі пазычала яе бабуля і чыталі разам з дзядулем. Кніжкі называліся: „Людзі на балоце" І. Мележа і „Анна Карэніна" Льва Талстога. Бабуля не жыве. Аня Філіпюк сказала, што цяпер яе дзед Мікалай Леанюк хоча пазычыць кніжку і каб пані бібліятэкарка пашукала яму рускую. Я папрасіла Аню занесці свайму дзядулю і кніжку „Брэсцкая крэпасць" па-беларуску. Думаю, цікава будзе яму пачытаць гэтую кніжку.

Калі я разглядала беларускі кнігазбор у рыбалаўскай бібліятэцы, прыйшла мне на думку яшчэ адна, бадай, прычына малога зацікаўлення беларускай кніжкай. Вось стаяць як маналіт, усе аднолькавыя, 6, 4, 10 тамоў аднаго аўтара. „Зборы твораў" Ц. Гартнага, П. Глебкі, Я. Коласа, К. Чорнага і гэтак далей. Як такім зборам твораў можа пацікавіцца чытач? Гэта ж выданне не для масавага чытання. Каб такія зборы твораў чыталіся, трэба чытача высока адукаванага, добра ўмеючага чытаць па-беларуску, а дзе ж яны такія чытачы ў нас? Мала

**(Працяг на стар. 11)**



*Царква ў Грыневічах-Вялікіх. Мал. У. Петрука.*

язджае з Масквы ў Кіеў. Памірае за мяжою 12 ліпеня 1843 года.

Ігнат Даніловіч усю сваю навуковую дзейнасць прысвяціў вывучэнню матэрыялаў па гісторыі Беларусі, Літвы і часткова Польшчы. Дзякуючы яму былі знойдзены многія дакументы з часоў Вялікага княства Літоўскага. Гэта Даніловіч адкрыў і даследаваў „Хроніку Быхаўца" — каштоўнейшы беларускі летапіс XVI ст. Затым ім быў даследаваны рукапіс з 1519 г., знойдзены ў мурах Супрасльскага манастыра. У гэтым рукапісе захаваўся арыгінальны беларускі летапіс з першай паловы XV ст. Тэкст гэтага летапісу ўвайшоў у яго кнігу „Latopisiec Litwy i Kronika ruska", выдадзеную ў Вільні ў 1827 годзе.

У час пабыўкі ў Харкаве І. Даніловіч знаходзіць каштоўнае выданне „Статута Казіміра IV" — Літоўскага статута 1529 года. Вопыт, набыты пры даследаванні Літоўскіх статутаў 1529 і 1588 гадоў ды іншых прававых дакументаў дазволіў І. Даніловічу апублікаваць працу „Гістарычны агляд літоўскага заканадаўства" (літоўскага — значыць: беларускага). У гэтай працы Даніловіч дае характарыстыку развіцця права ў Беларусі і Літве. Параўноўвае праўныя акты Вялікага княства Літоўскага з выдадзенымі актамі таго часу і тыпу ў Заходняй Еўропе.

Плёнам навуковай работы Даніловіча сталі таксама выданні: „O medalach Radziwiłłowskich" (1830), „Dorywcze uwagi o hipotekach" (1837), „О литовских летописях" (Москва 1840), „Исторический взгляд на древнее образование городов славянских XIII века" (1841), „Книга посольская метрики Великого Княжества Литовского" (2 тамы, 1843 г.).

Але, несумненна, найбольшае дасягненне ў навуковай дзейнасці І. Даніловіча — гэта пасмяротна выдадзены друкам, двухтомны „Skarbiec dyplomatów..." *). Гэта збор амаль 2400 розных дакументаў, якія тычацца гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Гэта фундаментальнае выданне ўжо амаль паўтара стагоддзя з'яўляецца для гісторыкаў неацэненым матэрыялам для даследавання мінулага Беларусі, Літвы і Польшчы.

І. Даніловіч здолеў у сваёй асобе спалучыць стагоддзі... З'яднаць час, калі Беларусь у рамках уласнае дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага — стварыла вялікую культуру, з гадамі, калі пачала нараджацца ідэя Маладой Беларусі. А амаль поўнае адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры было ўжо толькі справаю некалькіх дзесяткаў гадоў.

**Мікола Сахарэвіч**

*) „Skarbiec dyplomatów papieskich, cesarskich, królewskich, książęcych, uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów". Вільня 1860—1862.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Авяр'ян Дзеружынскі

# ЦЕРАМОК

Казка

Ехаў дзядзька
Праз лясок
І згубіў ён там
Гаршчок —
Велізарнейшы, гліняны,
Нібы сонцам наліваны.

Прыляцела
Тут жа муха,
Загудзела
Папаўзуха:
— Чый жа гэта
Церамок,
Добры,
Новенькі дамок
Ля дарогі,
У траве...
Хто, хто
Ў ім жыве?

Не дачуўшыся адказу,
У гаршчок палезла зразу,
Стала муха жыць у ім,
Светлым цераме сваім.
Падаспеў якраз
Камар,
Зазвінеў
Насач-званар:
— Чый жа гэта
Церамок,
Добры,
Новенькі дамок
Ля дарогі,
У траве...
Хто, хто
Ў ім жыве?

— Я, муха-папаўзуха.
А ты хто?
— Я камар,
Удалы званар.
— Дык заходзь,
Што гаварыць,
Будзем разам
Дружна жыць.

І жывуць яны
Ўдваіх,
Лад, парадак,
Згода ў іх.

Знекуль
Мышка-паскрабуха
Падышла,
Тапырыць вуха:
— Чый жа гэта
Церамок,
Добры,
Новенькі дамок
Ля дарогі,
У траве...
Хто, хто
Ў ім жыве?

— Я, муха-папаўзуха.
— Я, камар-званар.
А ты хто?
— Я, мышка-паскрабуха.



— Дык заходзь,
Што гаварыць,
Будзем разам
Дружна жыць.

І жывуць яны
Ўтраіх,
Лад, парадак,
Згода ў іх.

Жабка раптам
Прыскакала
І ласкава
Запытала:
— Чый жа гэта
Церамок,
Добры,
Новенькі дамок
Ля дарогі,
У траве...
Хто, хто
Ў ім жыве?

— Я, муха-папаўзуха.
— Я, камар-званар.
— Я, мышка-паскрабуха.
А ты хто?
— Я, жабка-квакуха.

— Дык заходзь,
Што гаварыць,
Будзем разам
Дружна жыць.

І жывуць
Учацьвярых,
Лад, парадак,
Згода ў іх.

Зай прыбег
І ўсё пытаў,
У акенца
Заглядаў:
— Чый жа гэта
Церамок,
Добры,
Новенькі дамок
Ля дарогі,
У траве...
Хто, хто
Ў ім жыве?

— Я, муха-папаўзуха.
— Я, камар-званар.
— Я, мышка-паскрабуха.
— Я, жабка-квакуха.
А ты хто?
— Я, зайчык-зай,
Уцякайчык-уцякай.

— Дык заходзь,
Што гаварыць,
Будзем разам
Дружна жыць.

І жывуць
Упяцярых,
Лад, парадак,
Згода ў іх.

(Працяг на стар. 10)



На ўроку беларускай мовы ў беларускім кабінеце вучні восьмага класа школы № 3 у Бельску.
Фота Я. Чэрнякевіч

Уладзімір Лінскі

# СПОВЕДЗЬ ШПУНДЗІКА

(7-ы ўрывак з аповесці)

Прыбралі на кухні, праветрылі. Бацька праверыў сервіроўку стала і мы ўрачыста запрасілі маму на сняданак.

Яна прыйшла на кухню ў сваёй новай блакітнай сукенцы, зрабіла нават прычоску.

Я даўно не бачыў маці такой прыгожай і маладой. Бацька паказаў ёй на сваё месца за сталом, а сам сеў бліжэй пліты. З'елі хлеб з маслам і каўбасой.

А бацьку не сядзелася. Ён ўзяў ручнік і выхапіў з духоўкі каструлю. Зняў накрыўку, і жыхнула адтуль прыемнымі пахамі.

— Ух ты, атрымалася! — узрадаваўся бацька. — Гатова!

— А давай, тата, так і назавём нашу страву — „ухты"!

— Малайчына! Падаём на стол „ухты"! — урачыста аб'явіў бацька.

Маці была радая-радая. Хваліла нашу „ухты" і ўсё гаварыла, што ў яе ніколі так не выходзіла. Мы былі на сёмым небе.

Пасля снедання тата аб'явіў:

— А цяпер — гадзіна паэзіі. Кожны дэкламуе свайго любімага аўтара.

Мама чытала Ганну Ахматаву. Бацька любіць Сіманава. Суровая ваенная лірыка гучала з яго вуснаў так выразна і задушэўна, аж вочы зрабіліся вільготнымі.

Я чытаў Вазнясенскага. З дыкцыяй у мяне выходзіла не вельмі складна. Дый спатыкаўся часта аб закавырыстыя словы, сэнсу якіх не ведаў. Мне было трохі сорамна, што стаў ахвярай моды. Пагнаўся дэкламаваць Вазнясенскага і запароўся. А мог бы, галава садовая, бліскуча прачытаць Купалу. Я ж так люблю яго вершы.

— А зараз пачытаем Пімена Панчанку! Згадвайце старонкі.

Я назваў старонку. Бацька адшукаў яе і падаў томік Панчанкі. Я пачаў дэкламаваць:

А я маладых не лаю
За доўгія валасы,
А я маладым не раю
Галіцца дзеля красы.
Не бэшчу ні міні, ні максі,
А джынсы і сам бы надзеў.
Былі б толькі твары без маскі
У маладых людзей.

Закончыў чытаць. Спякотнай гарачынёй шыбанула ў твар. Ад верша, ад думак, ад бацькоўскай хвальбы.

Маці папрасілася пачытаць кнігу, а мы з бацькам скрыжавалі мячы над шахматнай дошкай. Ён даўно не паддаецца мне, гуляе сур'ёзна. Тут бацьку проста не пазнаць. Ён, здаецца, падключае да шахматнай баталіі ўсе 14 мільярдаў нейронаў мозгу. Але нахрапам Бастылію не возьмеш. Бацька не ўлічвае, што ў маім пісьмовым стале паўтода ляжыць падручнік шахматных задач, і я ўважліва пачытваю яго.

(Працяг на стар. 10)

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### СВІТАНАК

*Словы У. Някляева / Музыка І. Лучанка*

*Птушкі ў вырай ляцяць, не пакінуўшы*
*ў гнёздах нікога.*
*У знямелых лясах ападае лісцё да*
*вясны..*
*Гэта наша пара, нас паклікала з дому*
*дарога,*
*А матулям пра нас будуць сніцца*
*бясконцыя сны.*

ПРЫПЕЎ:
*Узняўся над лесам світанак*
*крылаты,*
*І зорка упала, як кропля*
*з весла..*
*Там кружыцца бусел над*
*роднаю хатай,*
*Чакае матуля мая.*

*Ад крынічнай вады на губах застаецца*
*гарчынка.*
*На суровай мяжы падае нам удача руку.*
*З краю ў край над зямлёй*
*праплывае-плыве аблачынка,*
*Як хусцінка плыве, што ўпусціла матуля*
*ў раку.*

ПРЫПЕЎ.
*Птушкі ў вырай ляцяць, не пакінуўшы*
*ў гнёздах нікога.*
*У знямелых лясах ападае лісцё да*
*вясны...*
*Гэта наша пара, нас паклікала з дому*
*дарога,*
*А матулям пра нас будуць сніцца*
*бясконцыя сны.*

ПРЫПЕЎ.




## НІЎКА




### ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

— Адстаеш, — сказала Навука Практыцы. — Твой груз дужа цяжкі. Скінь яго.

— Так, але каму патрэбна голая Тэорыя!

### НА СХОДЗЕ

Так гаворыць, —
Здаецца, што свет зараз створыць
І сам сябе зробіць...
Словы, словы, —
Не знаю — якой яны цаны?
Адно толькі рэшта звініць у душы.
Быццам дробязь...
Словы, словы...
Няўжо, будуць правіць зямлёй
Крыкуны?...

### ХАЧУ ВЫСПАЦЦА

— Дарагі сусед! Пазычце мне на вечар вашую трубу.

— Што, вы таксама хочаце іграць?

— Не, што вы! Я хачу хоць раз выспацца.

* * *

Ці варта ўваходзіць у чужое становішча, калі гэтае становішча бязвыхаднае?

* * *

Ці варта ўступаць дарогу таму, хто не ідзе табе насустрач?

* * *

— Ва ўсіх ёсць што-небудзь сваё, а ў мяне — нічога няма. Вочы і нос таты, губы і вушы маміны, а валасы бабулі.



Кідаючы тапельцу якар ратунку, не старайся пры гэтым абавязкова трапіць яму ў галаву.

## МЯДОВЫ МЕСЯЦ

### Гумарэска

Іх бачылі заўсёды разам. Днямі ён круціўся каля яе, быццам безнадзейна закаханы: поўзаў на каленях, рассцілаўся перад ёю, а яна, прыгажуня, толькі зрэдку падавала буркатлівы галасок. Ён слухаў яе ўважліва і замілавана. Калі рабілася дужа горача, ён хаваў яе ад сонца, а калі неба хмурылася — ад дажджу.

Яна мела звычку начаваць пад зорным небам. Ён баяўся радыкуліту: спаў у гасцінічным нумары. Але доўга не мог заснуць: выходзіў на балкон і ўсё глядзеў на яе, аж пакуль не зліпаліся вочы. А раніцай яны зноў былі разам. Рабілі невялікую перабежку па асфальтавай дарозе, а затым пераходзілі да водных працэдур.

Нарэшце скончыўся тэрмін яго адпачынку. І хоць ён крыху стаміўся і сэрца яго пачало даваць перабоі, але ён быў шчаслівы, як ніколі: рытмічна працаваў матор яго „Волгі".

**Павел Саковіч**

### У СВЕЦЕ МУДРЫХ ДУМАК

*Жыццё дае кожнаму чалавеку велічэзны неацэнны дар — маладосць, поўную сіл, юнацтва, поўнае спадзяванняў, жаданняў і імкненняў да ведаў, да барацьбы, поўнае надзеі і чаканняў.*

*Мікалай Астроўскі (1904—1936), пісьменнік.*

### МАШЫНА ВАЖНЕЙШАЯ

Забінтаваны ад галавы да ног вадзіцель, які трапіў у бальніцу пасля аварыі, пытаецца ў лекара:

— Скажыце мне ўсю праўду, лекар, якой бы ні была яна горкай. Мая машына моцна пацярпела?

### ХАЛАСТЫ

— Рады вас бачыць, — гаворыць рассеяны прафесар адной сваёй знаёмай. — А як маецца ваш муж?

— Але я не замужам...

— Ах, значыць, ваш муж — халасты.



Супакойцеся, мама была мадэльшчыцай на конкурсе цырульнікаў.






А ты збіраешся сустракаць Новы год?



— З надыходзячым!...






Тры бедствы ёсць у чалавека: смерць, старасць і благія дзеці. Ад старасці і смерці ніхто не можа закрыць дзверы свайго дома, а ад благіх дзяцей дом могуць зберагчы самі дзеці.